# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА






грамадска-палітычны ды культуралагічны часопіс студэнцкага патрыятычнага згуртаваньня «Сьвітанак»

№ 1 1988 лістапад–сьнежань 1988 год I

На працягу 20-х – 30-х гадоў у старадаўняй сталіцы Беларусі – Вільні "Беларускім Студэнцтвам" выдавалася грамадзка-навуковая і літэратурная часопісь "Студэнцкая думка". Сёньня мы адчуваем сябе нашчадкамі тых барацьбітоў-студэнтаў, якія ў варунках заняволенай буржуазнай Польшчаю Заходняй Беларусі будзілі заспаную нацыянальную сьвядомасьць беларусаў. Мэты, накладзеныя так шмат гадоў таму, да сягоньня ня зьдзейсьнены. І таму пачнем са спадчыны!!!

СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА ! №3 /10/ ! 1928 верасень – кастрычнік 1928

*Беларускае студэнства!*

***У так важную гістарычна хвіліну зьвяртаемся да Цябе з заклікам:***

***Кожны будзь на сваім мейсцы! — Гэта знача, хто Беларусам і студэнтам чуецца і завецца, будзь такім усюды, скрозь і заўсёды. Нашаму бо пакаленьню суджана разбудовываць вялікую Будыніну Бацькаўшчыны. А да гэтага патрэбна перадусім глыбокая вера, вера ў сьвятасьць сваіх пачынаньняў, ды бязумоўна—цьвёрдая дысцыпліна.***

*Беларускае студэнства!*

***Пад бел-чырвона-белым сьцягам вучыся вільна і сумленна! Гэтага жадае ад Цябе Бацькаўшчына наша сяньня. А скончыўшы навуковыя прыгатаваньні — кожны і адусюль з тым-жа нацыянальным сьцягам сьпяшайся на родны беларускі палетак. Гэта мэта Твая заўтрашняя.***

*Veritatem sequi et tueri iustitiam!*
*Salus patriae suprema lex!*

*Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў.*

# ЗДАВАЙМА ІСПЫТЫ ПА-БЕЛАРУСКУ!

Сёньня перад беларускім народам паўстала пытаньне: альбо жыць, альбо зьнікнуць. Апошнія 60 гадоў працягваецца нястрыманая агонія роднае мовы. І калі мы дамо зьнікнуць сваей мове, з паверхні Зямлі зьнікнем й мы самі як народ.

У гэтым становішчы вельмі шмат залежыць ад нашае прынцыповасьці, як мы будзем размаўляць дома, у краме, на працы, урэшце, з каханай дзяўчынай, са сваім дзіцём. А для студэнта гэта найперш здаваць іспыты ды залікі па-беларуску, пісаць па-беларуску курсавыя ды лабараторныя працы, дый нарэшце, дыплом. На сяняшні дзень, дзякуючы перабудове, гэта ўжо ня рэдкасьць. Хаця яшчэ год таму ад дзе-якога выкладчыка можна было пачуць:"Вы что не можете по-нормальному говорить!!!" Мы нават пачынаем усьведамляць неабходнасьць беларусізацыі інстытуту.

Праўда, перайсьці на мову для шмат каго вельмі складаная справа. Па-першае, у маральным плане: як паглядзець у вочы сваім сукурснікам, выкладчыкам, дэкану? Па-другое, у чыста тэхнічным плане: гэта слабое валоданьне мовай, навуковай тэрміналогіяй і г.д. Паспрабую даць такія-сякія парады са свайго ўласнага досьведу, бо сам прайшоў гэты шлях. Я усьвядоміў сябе даволі позна, аж на трэцім курсе, тады й напісаў сваю першую курсавую "Лясны гадавальнік" па-беларуску.

Ня трэба сьпяшацца, сёньня загаварыў на мове са сваім сябрам, заўтра з выкладчыкам, а потым, глядзіш, і з дэканам. Галоўнае паступова пазбаўляцца комплексу, што мы ў нечым вінаватыя перад імі, быццам мы нешта ўкралі ў іх. Трэба набірацца гонару за сябе, каб сьмела глядзець у вочы сытаму абывацелю. Гэты комплекс больш уласьцівы вяскоўцам. Хто хоча, каб яго лічылі "колхозником"? У гараджаніна на маральную мяжу часам уплывае кепскае валоданьне мовай. Зьяўляюцца пакутлівыя думкі:"Скажу па-руску - здрада ідэалам, скажу па-беларуску ды раптам з памылкамі" Пра сорам ня можа й быць гаворкі. Трэба добра ўсьвядоміць, што толькі гаворачы можна навучыцца думаць па-беларуску, выпрацаваць правільнае вымаўленьне, адшліфаваць мову, выкараніць русізмы. Галоўнае не бянтэжыцца! А якому недалугу на сьмяшкі можна й адказаць:"Так, раней я ніколі не размаўляў па-беларуску. Хай у мяне ёсьць памылкі, але ў мяне ёсьць і жаданьне, чаго няма ў цябе. І я ведаю, што буду прыгожа гаварыць на мове маіх дзяцоў".

Калі асноўным для цябе зьяўляецца кепскае валоданьне мовай, то лепш за ўсе пачынаць зь нейкага аднаго прадмету, пажадана каб гэта

была нейкая курсавая ц1 лабараторная праца. Так1м чынам пад час нап1саньня праекту паступова шл1фуеш мову 1 ужо пры канцы семестра адчуваеш; можаш ужо абаран1ць яго па-беларуску. У наступным семестры можна ўзяцца гэтак ужо за ўсе курсавыя. Далейшым этапам будзе пераход цалкам на мову.

На першым этапе асабл1ва часта даводз1цца зьвяртацца да слоўн1ка, гэта стамляе, роб1ць працу малапрадукцыйнай. Таму рэкамендую асабл1ва не баяцца рус1змаў, не ламаць дужа галавы як нап1саць. Няхай сеньня ты нап1саў "поўнасьцю", а заўтра кал1 даведаешся, што ёсьць больш беларускае слова, нап1шаш "цалкам". Галоўнае каб гэты рус1зм моцна не вытыркаўся з кантэксту, ня рушыў мэлёдыку беларускае мовы. Тут яшчэ трэба зважаць на тое, што нашыя выкладчык1 сам1 ня ведаюць мовы. Таму трэба больш выяўляць творчасьц1, сьмеласьц1, ствараць новыя словы, тэрм1ны. Кал1 яны будуць удалыя, то й замацуюцца практыкай. Напрыклад, "индукционную катушку" можна назваць "1ндукцыйнай шпуляй", "гусеничный трактор" - " вусянёвым трактарам".

Вял1кую дапамогу могуць аказаць тэрм1налаг1чныя слоўн1к1, але нажаль маем й1х вельм1 няшмат. Праца па й1х стварэньн1 фактычна спын1лася на пачатку 30-х гадоў. /Гэта задача наша сёняшняя./ За няпоўнае дзесяц1годзьдзе лен1нскае нацыянальнае пал1тык1 /20-30 г.г./ наша мова зраб1ла вял1к1 ўзьлет, было выдадзена некальк1 туз1наў тэрм1налаг1чных слоўн1каў амаль-што па ўс1х гал1нах навук1. Гэты выпуск /24 кн1г1 1922-1930 г.г./ мае назву "Беларуская навуковая тэрм1налёг1я". Даўна насьпеў час перавыдаць гэтыя слоўн1к1 хаця б на пал1граф1чнай базе 1нстытута. Справа нескладаная: па 25 аркушоў кожны. А ўвогуле падаю н1жэй сьп1с л1таратуры, якой раю карыстацца студэнтам БТ1:

1. Беларуская навуковая тэрм1налог1я. Мн., 1922-1930. Вып. 1-24.
2. Болсун А.1.., Рапанов1ч Я.Н. Слоўн1к ф1з1чных 1 астранам1чных тэрм1наў. Мн., 1979. 183 с.
3. Киселевский А.И. Латино-русско-белорусский ботанический словарь. Мн., 1983. 192 с.
4. Русско-белорусский словарь общественно-политической терминологии. Под ред. Н.В.Бирилло и М.Р.Судника. Мн., 1970, 451 с.
5. Слоўн1к х1м1чнай тэрм1налог11 /агульная х1м1я/ ў л1ку 2552 тэрм1наў. Мн., 1929. 177 с.
6. Тэхн1чная тэрм1налог1я. Мн., 1932. Вып. 1. 262 с.

1 апошняе, хацелася б зарыентаваць Вас зьб1раць тэрм1налаг1чныя адз1нк1 па х1м11, б1ялог11, батан1цы 1 г.д., як1х няма ў руска-беларуск1х слоўн1ках. Мы ўсе гуртам пав1нны ўзяцца за стварэньне арыг1нальнай беларускай навуковай тэрм1налог11. Тым больш трэба памятаць, што ў нашых сьцянох будуць 1сьц1 наступныя курсы.

Ну то ў добры шлях!

Алесь Гуркоў 5 курс ЛГФ

# КРОНІКА; КРОНІКА; КРОНІКА

* * *

Згодна з планам работы аб"яднаньня, сябрам1 "Св1танку" вялася падрыхтоўка вечарыны памяц1 паэтэсы Ларысы Ген1юш "Маё 1мя Ларыса Ген1юш, маё 1мя сёньня як боль!". Меркавалася, што ў вечарыне будуць браць удзел: сяброўка Л.Ген1юш паэтка з Гародн1 Данута Б1чэль-Загнетава, маладыя паэты з "Тутэйшых" М1хась Скобла й Вольга Куртан1ч /Жлоб1н/, на вершы спадарын1 Ген1юш мел1ся сьпяваць Алесь Камоцк1, М1хась Магер, Вольга Цярэшчанка /Томля/. Перад вечарынай был1 запланаваныя: кн1жны к1рмаш, разпродаж беларускае керам1к1, фотавыстава

Але сёньня трэба прызнацца, што вечарына ляснулася... Атрымаўшы папярэдн1 дазвол у парткаме 1нстытута, праз тыдзень мы даведал1ся: "Почему бы вам не провести вечер Якуба Коласа, а не этой фашистской и националистической деятельницы". Не став1м пад сумнеў дасьведчаннасьць сакратара парткама, але мус1м заяв1ць:"Гэтай "фашыстоўскай 1 нацыянал1стычнай дзеячкай" было выдадзена ў Савецкай Беларус1 дзьве кн1г1 "Невадам зь Нёмана"/1967, зборн1к рэдагаваў У.Караткев1ч/ ды "На чабары настоена"/1982/. На 1989 год выдавецтва "Мастацкая л1таратура" запланавала выпуск выбраных вершаў славутай паэтк1.

Сх1ляючы галаў перад талентам 1 мужнасьцю Ларысы Ген1юш, мы зьмяшчаем сёньня некальк1 вершаў зь яе недрукаванае спадчыны:

Сэрца ня здасца

Сярод загадаў, чужых, нялюдзк1х,
Дзе права жыць, нам даюць, як ласку,
Стукоча сэрца па-беларуску,
1 сэрцу цяжка.

Вабяць настырна касм1чным дз1вам,
Секуць нагрозай сполах1 ночы.
Слухаць 1х баяў, брудных, 1лжывых,
Сэрца ня хоча.

Ад н1ў, абманам забраных у няволю,
За мову продкаў, што хочуць сьцерц1,
Па-беларуску нясьцерпным болем
Крывав1ць сэрца.

Насупраць родных, насупраць брацьцяў,
Гэтай варожай ласцы-няласцы
У беларускай сялянскай хаце
Сэрца не здасца.

Ад с1л варожых у кра1 аж грэзка,
Народ зьняволіць, аднак, ня проста:
Стукочуць сэрцы па-беларуску
Крывавай помстай.

* * *

Страх – за праўду к1нуцца ў бой,
Страх – не дагадз1ць акупанту,
Быць удома сам1м сабой,
Чалавекам быць! –
страх праклятым...

Суд – за думк1 вольны размах,
Воля – тольк1 прадажнаму слову.
Беларусам быць – тройчы страх,
Страх – валодаць роднаю мовай.

Страх – удалечы мець братоў,
Перад зьдзекам страх не скарыцца
Страх – мал1цца на мове дзядоў,
Дз1к1 страх – наогул мал1цца!

Страх – што ў вечары Каляда,
Страх за сына, што пойдзе ў школу
Страх – што бл1жняга не прадаў,
Страх – што чэсны,
што не жывела.

Страх гуманнасц1, дабраты,
Перад рускім страх,
перад ляхам...
Ц1 ж мы горшыя, га, браты?
Можа хоп1ць гэтага страху?

* * *

Край мой любы, войнам1 змучаны,
Над народам сьмяротны цень...
Моладзь споена, моладзь аблучана -
Ц1 падым'е Цябе з калень?

Адным - чарку, друг1м - у партыю,
Тольк1 б нечым зацiснуць рот.
А дзе ж тыя, чагосьц1 вартыя,
Што стаял1 б за свой народ?

Шкода вас, хлусьней заняволеных...
Мовы роднае не чуваць.
Можна збожжа прадаць, жывел1ну,
А ц1 можна душу прадаць?

Не было нам н1кол1 соладка,
Горда умел1 мы боль стрываць.
Можна хату прадаць 1 волратку,
А ц1 ж можна мац1 прадаць?

* * *

19 кастрычн1ка гэтага года ў стал1цы Беларус1 Менску было ўтворана г1старычна-асьветн1цкае таварыства памяц1 ахвяраў стал1н1зму "Марткралог Беларус1". На ўстаноўчы сход был1 запрошаныя народныя п1сьменьн1к1, маста́к1, артысты, грамадзяне, якія уласнай дзейнасцю вызначыл1 асабiстыя адносiны да стал1нщчыны як да аднаго з самых антыгуманных, дзяржаўна-пал1тычных рэжымаў у г1сторы1 чалавецтва. Усяго сабралася каля чатырохсот чалавек.

Як вядома насьля гэтае падзе1 ў перыядычным друку рэспубл1к1 разгарнулася кампан1я цкаваньня нефармальных патрыятычных згуртаваньняў моладз1, таварыства "Марткралог Беларус1", арган1зацыйнага кам1тэта па стварэньн1 Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне", творчых саюзаў ды 1ншых прагрэс1ўных арган1зацыяў. Узгадайма"Эвалюцыю пал1тычнага невуцтва", "Пена на хвал1 перабудовы", "Нам с вами не по пути" 1 г.д. У складаўшыхся варунках недасьведчанаму чытачу было цяжка разабрацца ў пал1тычнай с1туацы1. В1даць, з гэтай мэтай кам1тэтам камсамола 4 курса факультэта тэханалог11 1 тэхн1к1 лясной прамысловасц1 была вывешана насыченная газета "Комитет комсомола предлагает обсудить", у якой был1 зьмешчаны вышэйзгаданыя артыкулы, а таксама "Дэкларацыя "Марткралогу Беларус1"". Адным словам чытайма ды параўноўвайма! Не прав1сеўшы й гадз1ны яна была зьнята 1 дастаўлена ў партком 1нстытута, сьледам быў выкл1каны яе галоўны стваральн1к Барыс Шэлко, якому было заяўлена н1 больш н1 меньш: "Будешь исключен из комсомола и отчислен из института!" Але дзякуючы таму, што ў хутк1м часе наша прэса прарвала блакаду цкаваньня, прысуд ня быў выкананы.




*Мартыралог — сьпіс пакутнікаў, ахвяр; слова грэчаскага паходжаньня; прышло ў беларускую мову ў сярэднявеччы.

* * *

У сярэдзіне лістапада адбылася сустрэча трох сяброў "Сьвітанку" Юрася Пятрова, Алеся Марозіка, Алеся Гуркова з сакратаром партыйнага камітэта інстытута тав. Сімановічам. Гутарка пачалася са слоў: "Подождите, я перепишу ваши фамилии..."

Далей былі высьветлены пазіцыі па шэрагу пытаньняў.

– Дык як цяпер нам зьбірацца на паседжаньні, да нас дайшлі чуткі, што парткам забараніў даваць нам аўдыторыю, нават на камсамольскія сходы трэба браць дазвол у камітэце камсамола інстытута???

– Да вот так. Каждый раз будете представлять в комитет комсомола сценарий своих собраний. А мы будем решать, позволить или нет. Вести заседание будет представитель комитета комсомола, в соответствии со сценарием предоставлять слово.

– А ці павінны быць у сцэнары рэплікі зь месцаў?

– И реплики тоже.

– Мы хацелі б запрасіць загадчыка катэдры гісторыі інстытута культуры Анатоля Грыцкевіча на адно са сваіх паседжаньняў.

– Из института культуры? Ну, тогда там у него и собирайтесь!..

- Згодна з пастановай XIX партканфэрэнцы1 "Аб публ1чнасьц1" тыя органу друку, на старонках як1х был1 пакрытыкаваны пэўныя асобы, павінны даць гэтым асобам мейсца для публ1чнага адказу. Наша 1нстытуцкая шматтыражка перадрукавала з рэспубл1канскай прэсы вядомы артыкул "Эвалюцыя пал1тычнага невуцтва". Артыкул, як1 успрымаецца, як пал1тычны данос на л1дэраў патрыятычнага клуба "Талака", як ман1фест антыперабудовачных с1лаў на Беларус1. Мы ведаем, што людз1, як1х закранул1 ў гэтым артыкуле, падал1 свае адказы ў шэраг рэспубл1канск1х газет. Ц1 будуць зьмешчаны ў нашым "Тэхнолагу" й1х адказы?

- Что?! Никаких людей со стороны. Сотрудники нашего института не могут месяцами напечатать свои материалы.

# АБ'ЯВЫ, АБВЕСТК1

***

У 1нстытуце працягваецца збор подп1саў выкладчыкаў, навуковых супрацоўн1каў, лабарантаў, абслугоўваючага персаналу, студэнтаў пад л1стом у Вярхоўную Раду БССР з прапановай надаць беларускай мове статус дзяржаўнай на тэрыторы1 Беларус1.

На сёньняшн1 дзень сабрана каля 350 подп1саў. Азнаем1цца з л1стом ды пастав1ць свой подп1с магчыма ў 1нтэрнаце №5 пакой 85Б /Марозік Алесь/, а таксама ў 4-м 1нтэрнаце пакой №139/Трусаў Аляксей/. Дадамо яшчэ, што ў вышэйзгаданых спадароў вы можаце ўзяць пачытаць разнастойныя матэр"ялы Арган1зацыйнага кам1тэту Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне".

***

Працягваецца збор беларуск1х кн1г для Беларускага л1цэя 1мя Бран1слава Тарашкев1ча ў Бельску-Падляшск1м /Польшча/.

У складаных варунках апынулася Беларуская Нацыянальная меньшасьць у ПНР /500 тыс./. Хран1чна нестае мастацкай л1таратуры, падручн1каў, прэсы 1 г.д. Вось што гаворыць настаўн1ца беларускай мовы л1цэя ў Бельску-Падляшск1м Вера Рышчык:"Увесь матэр'ял мус1м раб1ць у школе. Каб дадому даць падручн1к, нават няма мовы. Да таго ж падручн1к вельм1 недасканалы, Таму пакутуем з граматыкай ды г1сторыяй Беларус1 . У вельм1 цяжк1х с1туацыях ратуе нас "Н1ва"/Тыдзень1к Беларускага Грамадска-культурнага Таварыства ў Польшчы !БГКТ!/. Нажаль, улады асьветы Савецкай Беларус1 пакуль што не рэагуюць на настойл1вые просьбы школы аб помачы. Не рэагуюць таксама на просьбы Галоўнага праўленьня БГКТ. У дадзеным станов1шчы суполка "Сьв1танак" вырашыла сабраць б1бл1ятэчку беларускай кн1г1 для л1цэя 1мя Б.Тарашкев1ча 1 даслаць яе ў Бельск-Падляск1.

Кал1 ў шаноўнага чытача ўзьн1кла жаданьне ахвяраваць якую беларускую кн1гу для гэтай справы, то прос1м павелам1ць па тэлефоне 34-42-78 Алесю Гуркову.

* * *

У хуткім часе ў нашым інстытуце пачне сваю працу Дыскусійна-палітычны клуб імя Францішака Скарыны. Сваёй задачай ён ставіць шчырае і адкрытае абмеркаваньне пытаньняў культуры, мовы, гісторыі беларускага народа. Першае паседжаньне мае адбыцца пры канцы сьнежня на тэмат: "Цёмныя плямы ў гісторыі Утварэньня КП Беларусі і Беларускай ССР". На паседжаньне запрашаюцца літаратар Эрнэст Ялугін, гісторык Анатоль Сідарэвіч, гісторык Мікола Сташкевіч. Гэткае шырокае кола прадстаўнікоў супрацьлеглых поглядаў наводзіць на думку, што чакаецца моцная навуковая бойка.

* * *

Сябры армянскага зямляцтва у Менску / студэнты нашага інстытута/ вядуць падрыхтоўку да прэс-канферэнцыі "Нагорны Карабах — чуткі і праўда". Усіх, каго зацікавілі дзьве апошнія абвесткі, раім больш пільна ўглядацца ў тыя аб'явы, што вісяць на дошцы у фае чацьвертага корпусу.

Увага ! !

РЭДАКЦЫЯ ЗЬВЯРТАЕЦЦА ДА ЎСІХ СТУДЭНТАЎ
З ПРОСЬБАЙ ДАСЫЛАЦЬ МАТЭРЫЯЛЫ
ХАРАКТАРУ КУЛЬТУРНА-ГРАМАДСКАГА, ПАЛІТЫЧНАГА, НАВУКОВАГА, ЭКАНАМІЧНАГА, ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА, ГУМАРЫСТЫЧНАГА, САТЫРЫЧНАГА, АБВЕСТКІ .
АСАБЛІВУЮ ЦІКАЎНАСЬЦЬ МАЕМ ДА МАТЭРЫЯЛАЎ ПА ПРАБЛЕМАХ ЭКАЛОГІІ.

* * * * * * * * * * * * * * * * * * *

*Адважна, брацьця, наперад ідзіце*
*Цьвердай і правай ступою,*
*Кожнаму у вочы сьмела глядзіце,*
*Праўду нясіце з сабою.*

*Карусь Каганец.*

Выдадзена коштам суполкі "Сьвітанак"